Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 20 Серада, 14-га Ліпня 1926 г. м. Вільня Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень Цана нумару 20 грош.

Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на па... дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая ...а.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.

Пад... Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам — 20 гр.
,, сярод тэксту — 25 гр.
,, на апош. стар. — 10 гр.
За радок нонпарэля.



# ЗЬЕЗД ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

## Склад Зьезду.—Выбары Прэзыдыума.—Прывітаньня.—Дыскусія—Рэзалюцыі.—Выбары Нацыянальнай Рады.—Спэктакль.

У нядзелю 27 і ў панядзелак 28 чэрвеня у Вільні, у памешканьні тэатра „Palace" адбыўся Зьезд Заходняй Беларусі, скліканы па ініцыятыве Часовай Беларускай Рады.

Прысутных на зьездзе было каля 200 чалавек; у тым ліку—105 дэлегатаў з правам голаса, а рэшта — госьці з дарадчым голасам.

На месцох для прэсы — карэспандэнты віленскіх і варшаўскіх газэт: „Kurjera Wileńskiego", „Беларускага Слова", „Now. Kur. Polsk.", „Słowa", „Маланкі", „Dzien. Wilenski", „Віленскага Утра", „Kurjer. Warszawsk.", „За Свабоду" і г. д.

На зьезд зьявіліся дэлегаты ад Віленскага, Наваградзкага, Палескага і Беластоцкага ваяводзтваў.

Есьць дэлегаты ад гэткіх паветаў:

1, *Наваградзкі пав.*: м. Навагрудак — 2 дэл.: Дзятлаўская гм. в. Вензавец — 1 і в. Мураванка —1.

2. *Слонімскі пав,*: Казлавецкая гміна —3 Дзеравенская гм. — 2, Дзярэчынская гм. — 1, в. Курыловічы — 1, в. Селявічы 2

3. *Нясьвіскі пав.* м. Несьвіж — 2; Клецкая гм. — в. Бабаявічы — 2; Ланьская гм. Лань — 1, в. Быхаўшчына — 1; Сіняўская гм. — 2, в. Дунайчыцы — 1, в. Масьцілавічы —1, в. Клапатычы — 2, в. Вабалатнікі — 1, Карацк — 1, м. Клецак — 1, м. Сноў — 1; Грыпэвіцкая гміна в. Вароніна — 1 і в. М. Мэрвіны —1.

4. *Баранавіцкі пав.*: Ляхавіцкая гм. — 1. в. Падлесьо —1, Воўна — 1.

5. *Валожынскі пав.*: в. Казарэзы — 1 в. Гародзькі — 2 в. Запрудзе — 2, в. Ганькавічы — 1.

6. *Стаўпецкі пав.*: Ракаўская гм. — 1. в. Дуброва — 1.

7. *Лідзкі пав.*: в. Острына — 1.

8. *Косаўскі. пав.* — 1.

9. *Лунінецкі пав.*: Заастравецкая гм. — 2

10. *Горадзенскі пав.*: Скідэльская гм. в. Рэўкі — 1. Азерніцкая гм. — 1, Жытомлінская гм. в. Саволеўка —1, Дубноўская гм. — 1, Верцялішская гм.—1, м. Горадня—2,

11 *Ваўкавыскі пав.*: в. Лаўрыновічы — 1. в. Парозава — 1.

12. *Віленска-Троцкі пав.*: Разам з м. Вільняй 16 дэлегатаў.

13. *Маладэчанскі пав.*: Лебедзеўская гм. — 2; Краснасельская гм. — м. Уша — 1, в. В. Уша — 1. в. Карсаковічы — 1, м. Маладэчна — 1.

14. *Пастаўскі пав*: в. Кузьмічы — 2.

15. *Вілейскі пав.*: Радашкаўская гм. в. Путнікі — 1, Гарадокская гм. в. Такарэўшчына — 1, м. Курэнэц — 1.

16. *Ашмянскі пав*: Залеская гм. в. Аленец — 1.

17. *Сьвянцянскі пав.*: в. Грыгорyўшчына—1 м. Сьвянцяны — 3.

18. *Браслаўскі пав.*: Пагостская гм. в. Казакі — 1, Друйская гм. — 1.

19. *Сакольскі пав.* М. Кузьніца—1.

20. *Бельскі пав.* м. Пасынкі — 1.

Як бачым з гэтага сьпіска на зьездзе былі прадстаўлены амаль усе паветы Заходняй Беларусі.

Апрача гэтага на зьездзе былі прадстаўнікі трох беларускіх Гімназіяў: ад Наваградзкай—дырэктар Скрэбец, Шумскі, Даніловіч і Чатырка; Клецкай—Кішкель, Энгель і Галкоўская і Віленскай—Заморын і Сіняўскі, а таксама і прадстаўнікі Гурткоў Т-ва „Прасьвета": ад Гуртка ў в. Дунайчыцы—Корбут. в. М. Слабада—Ярош, в. Туча—Янучок, в. Краснае—Балаш, в. Казлоўшчына—А. Тарасюк і в. Клапатычы—С. Мелішкевіч.

На зьездзе былі прадстаўлены амаль ўсе кірункі беларускай палітычнай думкі. Сярод значна пераважаючай большасьці прыхільнікаў ідэалёгіі і праграмы Час. Белар. Рады на зьезд трапілі і сябры „хадэкаў" (п. Яцына) і сябры „Сялянскага Саюзу" (Ч—ка і Хв. Ш—т), а на другі дзень зьезду на салі была заўважана і характэрная фігура беларускага „эсэра" Мамонькі.

Між іншым арганізатарамі зьезду былі зусім сьвядома дапушчаны падасланыя скрытыя „грамадаўцы", каб даць ім адкрыты бой у прысутнасьці ўсяго зьезду. Нават, згодна іх асабістай аб гэтым просьбе, у лёжы для гасьцей Старшынёю зьезду былі дапушчаны: сам сэкрэтар „Работніцка-Сялянскай Грамады"—М. Бурсэвіч і фактычны рэдактар „Маланкі"—Я. Маразэвіч. Трэба аддаць справядлівасьць, што гэтыя адкрытыя „грамадаўцы" захоўваліся зусім прызваіта, у той час, як скрытыя „грамадаўцы" рабілі ўсялякія спробы, каб сарваць зьезд.

## Першы дзень.

Пунктуальна а 12 гадз. пачынаецца паседжаньне. Адчыніў зьезд вядомы беларускі драматург Францішак Аляхновіч, які ў кароткіх словах прывітаў дэлегатаў і запрапанаваў выбраць Прэзыдыўм Зьезду.

Старшынёю Зьезду аднагалосна выбіраецца старшыня Час. Беларускай Рады А. Паўлюкевіч, сябрамі Прэзыдыума: сьвятчэньнік А. Сокал-Кутылоўскі, Тодар Вернікоўскі, Фр. Аляхновіч, дырэктар Наваградзкай Гімназіі Скрэбец, Б. Друцкі-Падбярэскі, Ярош, Кернажыцкі і Берняк.

Пасьля выбараў Прэзыдыума Старшыня чытае прысланыя на імя зьезду прывітальныя тэлеграмы: рэдактара Віленскага Унівэрсытэта праф. Зьдзехоўскага, пасла Лашкевіча, кс. Талочкі, адваката Ледніцкага, каапэратара Гандэльсмана, Ю. Асмалоўскага.

З асобнымі прывітаньнямі выступілі: Старшыня Час. Беларускай Рады — А. Паўлюкевіч. Рэдактар газэты „Беларускае Слова", — Тодар Вернікоўскі і прадстаўнік польскага грамадзянства — адвакат Міцкевіч, які ў сваёй сэрдэчнай прамове выказаў думку, што польска-беларускае паразуменьне будзе мець вялікае значэньнэ.

На прапазыцыі Прэзыдыума Зьезд пастанаўляе выслаць прывітальныя тэлеграмы п. Прэзыдэнту Польскае Рэспублікі, Прэзэсу Рады Міністраў Бартэлю, Маршалку Пілсудскаму і Віленскаму Ваяводзе Рачкевічу гэткага зьместу:

1. П. Прэзыдэнту Рэспублікі.

Зьезд прадстаўнікоў Заходняе Беларусі ў Вільні ў дзень адчыненьня 27-га чэрвеня пасылае прывітаньне і выражае надзею, што пад уладай п. Прэзыдэнта, як прадстаўніка шчыра польскай дэмакратыі, запануе ў Польшчы ідэя праўдзівай дэмакратыі.

2. Прэзэсу Рады Міністраў Бартэлю.

Зьезд прадстаўнікоў Заходняй Беларусі ад 27 чэрвеня вітае ў Вашай Асобе Урад шчырай польскай дэмакратыі і выказвае надзею, што абецанае маральнае аздараўленьне адносінаў у Польшчы будзе праведзена шчыра і рашуча і на крэсах.

3. Маршалку Пілсудскаму.

Зьезд прадстаўнікоў Заходняе Беларусі ў Вільні ад 27 чэрвеня вітае Цябе Маршалак, Слаўны Сын нашае зямлі, як Абнавіцеля жыцьця ў Польшчы, які дае і Беларускаму Народу гваранцыю зьдзейсьненьня Яго нацыянальных ідэалаў.

4. Ваяводзе Рачкевічу.

Зьезд прадстаўнікоў Заходняе Беларусі ад 27 чэрвеня вітае Вас, як адзінага прадстаўніка вышэйшых Крэсавых Уладаў, які прыхільна і сэрдэчна трактуе справы крэсаў і стараецца ісьці на сустрэчу жаданьням Беларускага Народа".

Пасьля прыняцьця дэпэшаў прадстаўніком Ураду адзін з дэлегатаў—Акінчыц запрапанаваў паслаць прывітаньне і запрашэньне на зьезд і беларускім паслам. Прапазыцыя гэтая, пасьля дыскусіі, была адкінута вялікай большасьцю галасоў. Аднак-жа апазыцыя, на гэты раз у асобе п. Даніловіча, у часе дыскусіі на па агульна-палітычнаму пытаньню, ізноў прабавала правясьці гэтую прапазыцыю. Старшыня Зьезду зазначыў, што хаця ён гэтай прапазыцыі не павінен нават ставіць на галасаваньне, бо яна ўжо раз зьездам была адкінута, аднак-жа, каб праканаць апазыцыю, што яна мае сьвядомую аўдыторыю, ён ставіць яе на паўторнае галасаваньне. Яшчэ вялікшай большасьцю галасоў прапазыцыя адкідаецца.

Пачынаюцца рэфэраты.

Першы рэфэрат па агульна-палітычнаму пытаньню адчытаў А. Паўлюкевіч. Накрэсьліўшы два палітычных напрамка: адзін зарыентацыяй на бальшавіцкі Усход і другі—на дэмакратычны Захад у лучнасьці з Польшчай, дакладчык напомніў аб вялікіх гістарычных грахах польскай дэмакратыі перад беларускім народам. які ў найцяжэйшыя мамэнты барацьбы з бальшавікамі за сваё Адраджэньне ня быў падтрыманы братнім польскім народам. Далей, востра крытыкуючы палітыку Беларускага Пасольскага Клюбу, дакладчык сьцьверджае факт банкроцтва тактыкі Клюба з прычыны няздольнасьці да рэальнай працы і поўнай ізаляцыі ад польскай дэмакратыі.

Падкрэсьліўшы немагчымасьць дзяржаўнай беларускай працы ў Савецкай Беларусі, дакладчык пераходзіць да ідэалёгіі Час. Беларускай Рады, якая імкнецца да зьдзейсьненьня нацыянальных беларускіх ідэалаў супольнымі высілкамі разам з польскай дэмакратыяй.

Работа Рады ў гэтым напрамку прывяла к поўнаму банкроцтву Белар. Пасольскага Клюбу і распаду яго на тры групы: „Сялянска-Работніцкую Грамаду", „Хадэкаў" і „Сялянскі Саюз", з якіх дзьве апошнія групы нарэшце прынялі некаторыя галоў-

шэнная барацьба між кіраўнічай бандай наймітаў і *выдзелянай* зьездам актыўнай апазыцыяй, якую пасыўна падтрымлівала вялізарная большасьць зьезду, толькі стэрарызованыя малайцамі доктара...“

„...Пачаўся страшэнны шум у салі... крычалі, каб апазыцыя не пакідала астаўшыхся сымпатыкаў. Раздаваліся крыкі: „Ганьба Прэзыдыуму...“

„...Пад страшэнны шум Паўлюкевіч галасуе сваю рэзалюцыю, якая прымаецца большасьцю 22 галасоў проціў 15, пры рэшце „ўстрымаўшыхся...“

„...Каб дадаць яшчэ больш страху, у салю была дадзена яшчэ больш паліцыі...“

„...Абʼяўлялі рэзалюцыі ня тыя, што былі апрацованы ў камісіях, але сфальшаваныя; з іх тэксту спакойна сабе выкідаліся „нялоўкія“ мейсцы...“

„.. Рэзалюцыі камісіяў не абвешчаліся...“

„.. Гасьцям іншага толку не давалі нават дарадчага голасу...“

„...За спробу гаварыць некалькіх гасьцей Паўлюкевіч сказаў папросту выкінуць за каўнер, што і зрабіла паліцыя...“

„...Праз увесь час зьезду на сцэне, дзе сядзеў прэзыдыум, навокал асобы пана старшыні Паўлюкевіча стаялі 4 паліцыянта з ружжамі, якія ня толькі баранілі яго дарагую асобу, але і слухалі ўсіх яго прыказаў, як свайго начальства...“

„...У часе паседжаньня зьезду падʼехаў добры воз з гарэлкай...“

„...Паўлюкевіч выслаў Вярнікоўскага ратаваць гарэлку... які паказаў паліцыянту нейкую паперку, якая на стаўшым адразу „ва фрунт“ паліцыянта зрабіла магічны ўплыў...“

„...Старшыня атрымаў на зьезд 22 тысячы, а яму каштаваў зьезд толькі 14 тысячаў. Дык чыстага даходу з прадпрыемства 8.000...“

„...На зьездзе лаяліся — ды крычалі пакрыўджаныя разрахункамі дэлегаты...“

„...Шмат хто з дэлегатаў за кару не атрымаў належнай ім сумы на падарожу да дому.. “

І г.д. і г. д...

Што, чытачы падумаюць можа, што гэта брэд варʼята, ці, анэкдоты? Зусім не!.. Гэта „справаздача“ аб зьездзе, надрукованая ў бальшавіцкай рэптылії „Народнай Справе“ № 2. За гэтую справаздачу шчырая падзяка пані Рэптыліі!.. Бо думаю, што ўсе дэлегаты, колькі іх было на зьездзе, бакі падарвуць ад сьмеху, чытаючы гэтую „справаздачу“. Ну, а тыя з апазыцыі, якіх была на ўвесь зьезд (на 120 чалавек, як кажа сама „Народная Справа“) ажно 5 (пяць!) чалавек, якія ня страцілі апошняга сораму, ці не пачырванеюць за гэтую справаздачу, як ракі? Бедная, зварʼяваўшая „Справа“!. Яна і не разумее, якую яна гэтай „справаздачай“ робіць сабе крыўду, а нам карысьць і прыемнасьць!.. Бо-ж усе дэлегаты будуць чытаць „праўду“ комуністычных пісакаў і апрача добрага настрою пасьля гомэрычнага сьмеху, яны зробяць і свае вывады як аб комуністычнай рэптыліі, так і аб тэй групе, органам якой гэтая рэптылія ёсьць.

Бедная, бедная Грамада! Бедны, нешчасьлівы прафэсар Тарашкевіч! Як-жа ён ня ведае старай ісьціны, што „услужлівы дурань небясьпечней ворага“.

# Рэзалюцыі Зьезду Заходняй Беларусі.

## Па агульна-палітычнаму пытаньню.

Прымаючы пад увагу:

а) што, ня гледзячы на дэмакратычны лад Польскае Дзяржавы, беларусы трактаваліся папярэднімі ўладамі як грамадзяне другога гатунку;

б) што адміністрацыйнымі ўладамі ў адносінах да беларускага грамадзянства ужываўся зьдзек і нават нарушэньне законаў;

в) што папярэднія ўлады праводзілі рознымі скрытымі і адкрытымі спосабамі палёнізацыю беларускага насяленьня;

г) што маршалак Пілсудскі, які яшчэ ў адозве выданай у 1919 г. абвясьціў гістарычны лёзунг: „роўныя з роўнымі і вольныя з вольнымі“, праліваючы братнюю кроў у імя агульных дэмакратычных ідэалаў, бязумоўна меў на ўвазе інтарэсы Беларускага Народу;

д) што майскі пераварот адкрыў шырокія магчымасьці для паразуменьня і супольнай творчай працы дэмакратыяў польскай і беларускай.

*Зьезд пастанавіў:*

1. Дамагацца незабаўнага правядзеньня ў жыцьцё тых праўных нормаў Констытуцыі, якія хаця ў частцы гварантуюць правы Беларускага Народа ў межах Польшчы і пратэставаць проці зьмены выбарнай ардынацыі на шкоду Беларускага Народа.

2. Стоячы на грунце тэрыторыяльнай аўтаноміі ў межах Польшчы, зараз-жа прыступіць да выбараў у самаўрады на самых шырокіх дэмакратычных падставах, выбары распачаць не пазьней 1 лістапада г.г.

3. Прасіць п. Прэзыдэнта Рэспублікі аб амністыі для палітычных вязьняў, абвінавачаных у распаленьні нацыянальнай і рэлігійнай розьні і агульна-палітычных праступках, за выняткам засуджаных за вучасьце ў выразна комуністычнай акцыі.

4. Незабаўнага аздараўленьня адміністрацыйных адносінаў шляхам рэарганізацыі сучаснага адміністрацыйнага апарата, пры шырокім вучасьці ў ім прадстаўнікоў беларускай дэмакратыі.

5. Увядзеньня да ўжытку ўва ўсіх судовых, адміністрацыйных і іншых дзяржаўных установах „крэсаў“ нараўне з дзяржаўнай мовай — мовы беларускай.

6. Безадкладна скасаваць „даразныя“ суды і ўвясьці на „крэсах“ інстытут прысяжных засядацеляў.

7. Зараз-жа распусьціць істнуючыя Сойм і Сэнат.

8. Цьвёрда заявіць, што толькі незабаўнае правядзеньне неабходных рэформаў можа прывясьці да фактычнага аздараўленьня края.

## Па зямельнаму пытаньню.

1. Стоячы на грунце ненарушнасьці правоў прыватнай зямельнай уласнасьці і прымаючы пад увагу, што асадніцтва крыўдзіць беларускае сялянства, — прызнаць неабходнай зьмену законадаўчым парадкам істнуючага закона аб зямельнай рэформе, з тым, каб закон гэты даваў магчымасьць атрымаць зямлю і беларускаму сялянству на тых-жа падставах, на якіх атрымоўваюць яе і асаднікі польскія.

2. Прызнаць найлепшай формай карыстаньня зямлёю — хутарскую гаспадарку, пры гэтым зрабіць усе крокі каб зямля была прырэзана, як малазямельным, гэтак і беззямельным сялянам.

3. Каб Зямельныя Банкі давалі сялянам самы шырокі крэдыт.

4. Каб бязумоўна ня было дапушчана новае асадніцтва.

5. Каб было забаронена пад пагрозай кары ўжываньне фізычнай сілы, як аплаты за зямлю.

6. Каб былі адбудованы зьнішчаныя гаспадаркі.

7. Каб грошы зложаныя ў расейскіх касах ашчаднасьці былі зьвернуты ўрадам.

8. Урад павінен адабраць зямлю ў тых асаднікаў, якія маюць дзяржаўную службу.

9. Пратэставаць проці выпадкаў несправядлівай парцэляцыі.

## Па школьнаму пытаньню.

I.

а) Яшчэ ў пачатку 1926—27 школьнага году павінна быць адчынена на дзяржаўны кошт ня менш 420 беларускіх пачаткавых школаў, на якія ўжо зложаны дэкларацыі; апрача гэтага павінны быць рашуча сынены ўсе перашкоды для адчыненьня новых беларускіх школаў, дзе гэтага зажадае насяленьне;

б) Даць шырокую магчымасьць адчыняць беларускія прыватныя пачатковыя школы там, дзе будзе ня менш 8 вучняў і дзе мейсцовае насяленьне гэтага зажадае;

в) Усе тыя беларускія школы, якія былі ператвораны ў школы польскія і ўтраквістычныя, зараз-жа вярнуць у папярэдні стан, надаючы ім усе правы ўрадавых пачаткавых школаў, з утрыманьнем на дзяржаўны кошт;

г) Усім тым безработным беларускім вучыцялям, якія ня маюць яшчэ польскіх кваліфікацыяў, зараз-жа даць вучыцельскія пасады ў беларускіх школах;

д) Усім тым беларускім вучыцелям, якія маюць польскія кваліфікацыі і цяпер працуюць у польскіх школах, даць пасаду ў школах беларускіх, калі яны гэтага зажадаюць.

II.

Дзеля падгатоўкі вучыцельскага пэрсаналу патрэбнага для беларускіх пачаткавых школаў адчыніць на дзяржаўны кошт у кожным „крэсавым“ ваяводзтве ня менш як па аднэй Вучыцельскай Сэмінарыі.

III.

Дзеля падгатоўкі вучыцялёў з вышэйшымі кваліфікацыямі зараз-жа адчыніць на дзяржаўны кошт у Вільні Беларускі Пэдагагічны Інстытут.

IV.

а) Істнуючым ужо ў межах Польшчы 4-м Беларускім Прыватным Коэдукацыйным Гімназіям даць поўныя правы дзяржаўных гімназіяў і вызначыць ім субсыдыі ня менш як па 36.000 зл. у год на кожную;

б) зараз-жа выдаць усім гэтым Беларускім Гімназіям па 6.000 злот. на

---

і палючых патрэбаў насяленьня гіне Дзяржава. Сярод-жа гэтых палючых патрэбаў, справа меньшасьцяў ёсьць найбольш сурʼёзнай і яна сёньня стаіць на парадку дзённым, чаго чамусьці ня бачыць „В. Кгуніса“.

І вось з гэтай, як бачым зусім памылковай, прадпасылкі „В. Кгуніса“ робіць гэткі-ж памылковы вывад „памылковыя асновы палітыкі п. Паўлюкевіча, дык памылковая і безкарысная для нашага народу дзейнасьць яго“.

Асновы нашай палітыкі зусім рэальныя і правідловыя, а вось „В. Кгуніса“ дык занадта ўпадае ў доктрынерства, і адыходзячы ад практыкі жыцьця; падобнымі перадавіцамі лье воду на млын тых, хто як з боку нацыянальнага, так і хрысьціянскага ёсьць нашым супольным ворагам—комуністаў і іже з імі. Бо вывад аўтара перадавіцы аб тым, што „сярод комуністаў ёсьць нямала чэсных беларускіх барацьбітаў-рэвалюцыянэраў...“—проста рэжа слух. Ці паважаны аўтар пасьля 8 гадовага панаваньня шайкі разбойнікаў над Расеяй, Украінай і Беларусьсю сурʼёзна яшчэ верыць *у байку аб ідэйных чэсных* комуністах? Ці аўтару ня ведама, што гэтыя „чэсныя“ комуністы зьніштожыўшы капіталістычную буржуазію, абяскровіўшы і выдусіўшы інтэлігэнцыю і азлабіўшы сялянства, зрабіліся самі самым пахабным відам разжырэўшага і абнаглеўшага буржуя, лазячы па курортах і вядучага самы бязпутны трыб жыцьця! А сама ідэя комунізма, дзе яна?

Праўда ў Савецкай Беларусі ёсьць многа шчырых беларусаў, якія запісаліся ў комуністычную партыю і ўсе-жткі шчыра і ахвярна працуюць на карысьць Беларусі. Але-ж гэта толькі слабыя духам опортуністы, якія не вытрымалі тэррору і дзеля асабістай бясьпекі *перамалёваліся* на комуністаў. Гэта комуністы „па пашпарту“, а не па праконаньням. Тут-жа ў Польшчы, дзе гэтага страху прад комуністычным тэррорам няма, комуністамі зьяўляюцца альбо прадажныя карʼерысты альбо беларусы... з „іностраннымі“ прозьвішчамі. Як-жа дзіўна чуць, што орган беларускай хрысьціянскай думкі сярод тых, хто вядзе самую страшэнную барацьбу з Хрыстом, хто паскудзіць Яго сьвятое Імя, хто замучыў сотні тысячаў веруючых хрысьціян,—гэты орган знайшоў нейкіх „чэсных комуністаў“.

Што датычыцца заметкі „В. Кгунісу“ аб тым, што на Зьездзе Заходняй Беларусі ня было нікога са старэйшых беларускіх дзеячоў, ані выдатнейшых сьвядомых сялян, аніводнага белар. пасла“, лічу патрэбным паклікаць „В. Кгуніcu“ да чэснасьці і прыпамінаю, што на зьездзе былі як асобы з вядомым шматгадовым стажам літэрацкім, так і палітычным. Здаецца імёны белар. драматурга, сябра Рады Рэспублікі, камандзіра 1 Слуцкай Брыгады першага беларускага войска, старэйшых педагогаў 3-х белар. гімназіяў і інш. даюць права сказаць, што на зьездзе былі і выдатныя і старэйшыя беларускія дзеячы. Што-ж датычыцц паслоў, дык мы іх і не запрашалі; а зьезд выразна сказаў, што банкротаў бачыць ня хоча. Бо адных лічылі нулямі, за другімі нам не падарозе. Праўда не зьявіліся запрошаныя асабіста пп. Станкевіч і Рагуля... Але мне здаецца, што яны не зьявіліся акурат дзеля таго, што ведалі, што будуць мець перад сабою занадта сьвядомых сялян, але толькі ня ў той бок, як бы гэта ім хацелася. Доказам гэтага зьяўляецца падчас дыскусіі поўны праваль, як ідэолёгічны, так і фактычны падчас галасаваньня спэцыяльна падасланай (а намі сьвядома дапушчанай!) апазыцыі „Грамадаўцаў“. Бо ці-ж можа быць які сумліў у тым, што ані літвафільская арыентацыя кс. Станкевіча, ані керэншчына Рагулі не знайшлі бы прыхільнікаў на зьездзе.

Даць бой адкрыты на зьездзе перад сьвядомай аўдыторыяй рэч куды больш небясьпечная, чым налемізаваць у прэсе, дапускаючы розныя *вольнасьці*, а то і грубыя *няточнасьці* у паданых фактах.

*А. Паўлюкевіч.*

---

**Грамадзяне! Чытайце і пашырайце сваю родную газэту.**

